Разбіты мой каўчэг. І я яго пакінуў.
Мне засціць сонца вочы. А пясок
З'ядае ногі. З кожнаю хвілінай
Цяжэй ісці... Але са мною Бог.

Першая кніга паэта

Васіль Дэбіш

# *Лісты да Марыі*

Мінск
„Мастацкая літаратура”
1996

ББК 84 (4Беи)6
Д94
УДК 882.6-1
Серыя заснавана ў 1968 г.
Прадмова *Ніны Мацяш*

ISBN 985-02-0273-4



## СІМВАЛЫ ВЕРЫ ПАЭТА

* * *

*Зазіраю ў заўтра я — цямрэча.*
*Навакол нікога — ноч і змрок*
*Толькі на стале трапеча свечка,*
*Бы ў сіло спайманы матылёк.*
*Ані зоркі. На засовы дзверы,—*
*Шоргат ног і рогат за сцяной.*
*Нібы звер загнаны, па кватэры*
*У спаняверцы сум блукае мой.*
*Чорны змрок ахутаў лес і нівы,—*
*У цемнаце не адшукаць дарог ...*
*Толькі ветру плач такі шчымлівы,*
*А ў душы — мінулае і Бог.*

Колькі сэрцаў здольны вярэдліва крануць гэты жалейкавы голас? Колькі людзей здольныя пазнаць сябе ў гэтай бязрадаснасці сённяшняга дня і няпэўнасці, беспрасветнасці для заўтрашняга? Мноства. Некалькі пакаленняў пайшло з жыцця, як з падмосткаў тэатра абсурду. Але масава расплюшчыць вочы на гэты тэатр давялося толькі нам, чарговым статыстам і адназямельцам аўтара вышэйпрацытаванага верша. Так, жыццёвым варункам нашым далёка да ладу, да гармоніі. Так, навокал пануе змрок і страх. Але ж ёсць, ;хай сабе і кволае, святло свечкі на стале! Так, „усё вакол мана, і ўсё нярварта жалю”, так, „пачварныя цені” і „рогат за сцяной”.

Але пакуль у душы— „мінулае і Бог”, такая душа не можа быць слабою і не шукаць выйсця з атупляльных расчалавечвальных абставін. І хоць лірычны герой Васіля Дэбіша неяк і ўсклікнуў разгублена: „Каму маліцца мне?” — воблік ягонага трыадзінага Бога яскрава вымалёўваецца на паэтычных старонках у іпастасях Радзімы, Дабраты і Кахання. Невясёлы гэты Бог, амаль трагічны: спляжаная янычарамі Радзіма, „дзе над родным смяецца бязродны вар'ят”; прыкра зацененая пустапарожняй мітуснёй Дабрата ды абыдзенае ўзаемнасцю Каханне. Аднак сапраўдны вернік ведае, што малітва да Бога — не папрокі, не вымаганне, а спавяданне. Лірычны герой Васіля Дэбіша не праклінае і не заклікае. Ён нікому не навязвае сімвалаў сваёй веры, ён толькі ўтаймоўвае ўласныя стому і боль. „Дай мне, Божа, сілы сябе, нібы парог, пераступіць”. Каб, ачысціўшыся пакутай, ісці далей. З удзячнасцю, „што Вы ў маім жыцці былі”.

І хто ведае, а можа, гэтыя згарманізаваныя ў вершаваныя радкі замовы і ёсць тое, самае істотнае, што чытач прагне пачуць з вуснаў паэта — ва ўсе часы?

Васілю Дэбішу дадзена не зняверыцца і не зняверыць.

***Ніна МАЦЯШ***

* * *

Юнацтва... Першы дзень вясны,
І нашы школьныя зарніцы.
У рэчцы стынуць перуны,
Цалуюць дрэва навальніцы.

На пожні босыя сляды.
Над рэчкаю вясёлка ззяе.
У малацэ густым сады,
І ўсё ў садах нам спагадае.

І пах сукенкі ільняны,
І рук маланкавая повязь.
Юнацтва... Першы дзень вясны.
Каханне першая аповесць.

## НОЧ

Дзень адышоў беззваротна.
У сцішнай прасторы
Зорак далёкіх халодныя стынуць скрыжалі.
Дрэваў самотных зіхоткае вецце
і горад
Хутае вечар
у змрочныя, чорныя хвалі.
Зноў я адзін. На душы так
трывожна і светла.
Вочы заплюшчу — і прыйдзе
спакой і адхланне.
Ночка запаліць рукою
зіхоткаю ветах —
Агонь велікодны ў бажніцах КАХАННЯ.

## ВІЛЬНЯ

Горад. Пагаслі наўкол ліхтары.
Змоўклі двары.
Крочу адзін я вулкай начной.
Больш ні душы.
Зоркі ніводнай няма нада мной,
Шоргат машын.
Млосна. Дождждык хоць бы на міг —
Кропля адна...
Вуснаў сасмяглых крануцца тваіх
І давідна
Песціць далоні, плечы твае
Пальцамі сноў...
Нечая постаць са змроку ўстае.
Ляскат мячоў,
Пошчак — здаля — капытоў мне чуцён.
Плачуць званы.
Пляц Гедыміна... Не мроя, не сон...
Помніш, адны
Тут мы блукалі мінулай вясной
У гэтакі ж час?..
Зноўку я тут... Толькі ты — не са мной...
Вулачкі пас.
Шпілі касцёла. Стынуць муры.
Змоўклі двары.

* * *

Зазіраю ў заўтра я — цямрэча.
Навакол нікога — ноч і змрок,
Толькі на стале трапеча свечка,
Бы ў сіло спайманы матылёк.

Ані зоркі. На засовы дзверы,
Тупат ног і рогат за сцяной.
Нібы звер загнаны, па кватэры
Ў спаняверцы сум блукае мой.

Чорны змрок ахутаў лес і нівы,
Ў цемнаце не адшукаць дарог...
Толькі ветру плач такі шчымлівы,
А ў душы — мінулае і Бог.

* * *

Які прыгожы, цёплы летні дождж
Пайшоў! Вясёлка заіграла з ночы.
Ты туфлікі зняла і басанож
Па лужынах пазелянелых крочыш.

І ад дажджу да ніткі я прамок.
І дрэвы і кусты ў зіхоткім глянцы.
Дзяўчынка — птушанятка-матылёк,
Ты закружылася ў дзівосным танцы.

Зачаравана на цябе глядзеў.
Смяялася гулліва ты. Сціх вецер.
І бурбалкі з табою на вадзе
Скакалі і кружыліся, як дзеці.

## БАГРЫМАВА ЖАЛЕЙКА

Вазьму ў рукі жалейку, зайграю,
Хай развеецца ноч хоць на міг.
Як жывецца табе, родны краю,
Краю смутку і песняў чужых?

Што вам сніцца, лугі і палеткі,
Мой далёкі, блакітны мой свет?
Я прыйшоў да цябе не ў адведкі,
Родны сын твой, каваль і паэт.

На ганенні, пакуты абраны,
Вам матуліна слова збярог.
У ланцуг небыцця закаваны
Я вярнуўся з расстайных дарог.

Чуеш, краю,— жалейка іграе.
Прачынайся ад доўгага сну.
Цішыня над Радзімай якая!..
Зноў жалейка гукае вясну.

* * *

Ты — лялька. І жыццё тваё — гульня.
Але я знаю нешта... Я прыкмеціў...
Смяешся ты над бедамі штодня,
І плачаш ты, як могуць толькі дзеці.

**АПОШНЯЯ НОЧ К. КАЛІНОЎСКАГА**

За акном — малады зарапад,
За акном — і сябры і воля.
З-за турэмных не выйсці крат
І Марысі не ўбачыць болей.

Як ты будзеш, о мой народ!
Без мяне хто цябе абароніць?
Заўтра сыдзе ўсё — ў незварот...
А душа — паляціць ПАГОНЯЙ!

## БЕЛАРУСКІ ТРЫПЦІХ

**І. Белавежа**

Квітнеюць тут паданні даўніх дзён,
Зуброў я гордых бачу на паляне.
Нібыта здань, плыве ў густым тумане
Разбураны палац. Суровы звон
Сляпых байніц. Варон крыклівых зграя
Злавесна кружыць між нямых абшараў…
На небе недзе, між халодных хмараў,
Над пушчаю свяшчэнны ЗНІЧ палае.

**2. На замчышчы**

Прамільгне і знікне продка цень
У Бажніцы перад Дзевы стодам.
Белы дзень Твой і твой чорны дзень
Зруйнаваны ў гэтых сценах, зводах.
Тут даўно ачах бунтарскі дух,
Знікла слова, што вякамі спела.
Ды не скіне вой цяжкі ланцуг,
Кат не вырве крык з душы збалелай.
На Дзвіне, на Грунвальдскіх палёх,
На Нямізе, над Вадою Сіняй
Не адзін з тваіх сыноў палёг…
Ды вяртаюцца яны к табе, Радзіма!

**3. Паходня**

Чырвоная поўня ўзышла над Гародняй.
Такая навокал трывожная ціш!
Між сённяшнім днём і мінулым, Паходня,
Ты з попелу ўстала і зырка гарыш.
Гляджу на агонь — і ў душы маёй ясна,
І верыцца ў шчасця грымотны разбег.
Гарыць наша памяць агнём непагасным
У мужнай руцэ, што трымае цябе.

## ЯНЫЧАРЫ

Ім сказалі:— Бярыце мячы і ідзіце.
Там няправільнай веры і мовы народ
Падзяліце дабро, а багоў іх спаліце,
У рабоў абярніце нікчэмны іх род.

Не шкадуйце нікога, бо кожны з іх вораг,
І жанок, і дзяцей напаіце крывёй...
Без дарогі пайшоў з векавою пакорай
На Радзіму зваўчэлаю зграяй сляпой.

Пассякалі лясы, а народ шматпакутны
На чужыну пагналі з бацькоўскай зямлі.
Засмярдзела навокал паветрам атрутным
Абярэгі насеннем пустым параслі.

І пакрыліся цвіллю крыніцы. І нівы
Зніклі ў цемрадзі чорнай,
нішчымнай начы,
Час спыніўся... І крыкам трывожным,
Патанулі ў нябёсах глухіх крумкачы.

Прытаміліся секчы галовы сякеры
Непакорлівых. І дагараў далягляд,
і прымалася мова чужая на веру
І над родным смяяўся бязродлівы брат

## НА ДНЕ ЛЮСТЭРКА

На дне люстэрка нечы твар
Застыў, халодны і нямы,
Нібыта водбліскі зімы,
На дне люстэрка нечы твар.

Мо гэта прывід нашых мар...
Пагоркі, вулачкі, дамы,
Пакой, люстэрка, плач сурмы,
А сярод іх каханай твар.

* * *

Каму маліцца мне, якім багам?
Да храма душ як адшукаць дарогу?
Нашто, скажы, такі патрэбен храм,
Дзе людскага няма даўно ўжо Бога?!

Дзе ўзводзяць фігляроў у святары
І веру замяняюць подлым страхам.
Пакіну дом, няхай агнём гарыць —
Падамся ў свет, адзеўшы апранахі. '

Пустэльнікам самотным па зямлі .
Блукаць. Бо тут забыліся пра Бога.
Мне не патрэбен храм такі, калі
Ён для абраных служыць, для нямногіх.

**ДАЖДЖЫ**

Цябе няма. І трэба жыць...
Сціскаю пальцы ледзяныя.
Дажджы. Ізноў ідуць дажджы.
Вятры халодныя і злыя.

Былога не вярнуць. Ілгаць,
Што нешта збудзецца, не трэба.
Як дождж я сам. І чорным небам
Навісла нада мной журба.

## АПОШНІ ТУР

Калі на дол бязважка ноч упала
І ўсё вакол ахутала імгла,
Яго арда чужацкая дагнала —
І цішыню прарэзала страла.

І рухнуў тур сваім магутным целам
У забыцці на набрынялы снег.
З усмешкаю шалёнаю глядзела
Арда, як ён канаў у страшным сне.

І плыў да зор плач пераможны лютні,
І месяц адзінока ў небе плыў.
Ды ён падняўся, горды і магутны,
І кліч смяротны пушчу аглушыў.

Стамленне іржалі дзіка коні,
Сцякала ў снег і астывала кроў…
І плакаў я… Мне снілася пагоня
І горды тур — апошні князь лясоў.

## ВЯРТАННЕ Ў МАЛЕНСТВА

Бацькоўскі дом. Пыляцца вуды.
Напоўнены грыбамі кошык.
Прымрояцца , маленства цуды,
Дзіцячай забаўкі раскоша.

У Скрыні — бацькава кашуля.
Партрэт бабулі тут, у раме…
Гляджу я на рулеткі,шпулі —
Бы цяжкі кош нясу з дарамі.

## ЗМЯРКАННЕ

У садзе ціша. Дрэў лісцё жаўцее.
Цень падае на дол ад ліхтара.
Ля хаты плот пахілены чарнее.

Суседняй студні ржавы скрып вядра.
Пах палыну гаркавы. Колаў свежых
Сярод падворка высіцца гара.

І вершаліны дрэў, нібыта вежы..
Траву сухую ледзь крануў павеў.
З-за дрэва сонца выйшла — у бязмежжы
Нябёсаў шлях агнём запалымнеў.

## МАСКІ

Мне сніўся масак карагод —
Я сярод іх пазнаў Дракона.
Пагардліва глядзеў ён з трона
На свой пакінуты народ.

„Гэй,вы, сляпыя і глухія,—
Я крыкнуў,— гляньце навакол”.
І маску з твару зняў сляпы я,
І злосна шпурляну ў на дол.

Крычалі ў спіну мне клікушы —
Вар'яцтва не іначай плод...
О Божа, ты вярні ім душы...
Пустыня... Змрок... Халодны лёд...

... Я плакаў... Бедны мой народ!..

* * *

Дарога. На дарозе снег.
Нічога больш. Кальнуў па воку
Мароз кудлаты і пабег
Гуляць у хованкі са змрокам.

Пагас ліхтарык. Хоць ты плач.
Я адубеў. А вецер свішча.
Завея вые і наўскач
Імчыць па белым папялішчы.

Аледзянелых крокаў звон...
З другім Вы... Я, адчаю поўны,
Пакіну Вас... А наўздагон
Ваш смех ляціць,
Ды ён — ратоўней.

* * *

Паненка з чорнаю касою,
Пра што сумуеш сярод ночы,
Не змружыўшы да рання вочы,
Паненка з чорнаю касою?

Ці не аб днях мінулых мроі?
Іх мы пазбудземся аднойчы.
Паненка з чорнаю касою,
Ты мне ўсміхніся сярод ночы.

## Э Ц Ю Д

Над намі — бездань. Вецер смутна
Шапоча. Дрэваў стыне звон.
Зусім сляпая ноч нячутна
Брыдзе па вулках і з вакон
Святло страсае. Пахам ліпаў
І груш напоўнены сады...
Букет бялюткіх руж рассыпаў
На небе месяц малады.

* * *

Паміж яваю і сном
блукае самотным пілігрымам
мая збалелая душа,
шукаючы выйсця
з лабірынта марнасці і спадзяванняў,
цемры і святла.
Пакаянная і грэшная,
на вагах жыцця і смерці
спаміж „але” і „не”.

* * *

Вяргіні.
                    Пах бялізны.
                                        Ранак.
Вы маўчыце...
                    Не трэба слоў.
Час той настаў. Бывайце, панна.
Стаміўся я ад зорных сноў.

Быць не баюся пакаянным.
Тапіў свой сум і я ў віне.
Я Вас кахаў, прабачце, панна.
Ды страшны стаў Ваш замак мне.

Дождж б'е па шыбах апантана.
Адчай і роспач на душы.
Бывайце... Не забудзьце, панна,
На вокнах свечкі патушыць.

## У КАСЦЁЛЕ

Хрыстовы крыж пацалавала
У чорнай вопратцы жанчына,
У зале музыка гучала
Самотна, светла, безупынна.

Здавалася, быў голас боскі
Чуцён. І спазнаваў я Бога
Слязою, што сцякала з воску
На зледзянелую падлогу.

І паміралі краскі лета,
Ды нараджаліся нанова...
І неба грукала ранетам,
І грукат прарастаў у словы.

* * *

Я думаў, я верыў — пральецца святло,
Спазнаю тады н зямнога жыцця вымярэнне.
І зорная ноч залюляла мяне, і' прыйшло
І зроку майму, і душы азарэнне.

Я радасць убачыў,
ад сонца самога святлей,
І голас яе быў спакойны і ясны.
Плыў смех навакол і шчаслівых
і мужных людзей.
І гэтулькі побач — пакрыўджаных,
хворых, няшчасных.
У міг той зліліся ў адно ноч і дзень,
З пяшчотаю — чэрствасць людская,
і з радасцю — гора.
Тады зразумеў:
я жыцця толькі кволы прамень
У гэтай вялікай і вечнай прасторы.

**У КАВЯРНІ „ПАМЯЦЬ"**

О князёўна, будзь шчаслівай з ім.
Вы зрабілі гэты выбар самі.
Ўецца чорна-шэрай змейкай дым —
Дым адчаю у кавярні „Памяць".

Божа мой, як я цябе кахаў!
Што цяпер, скажы, крычаць дарэмна?
Сёння душу д'яблу я прадаў
На пакуты і на здзек ганебны.

Вечар развітання... Ўсё мана
І не варта жалю — ўсё мінае.
Я за столік сяду ля вакна.
Вось і ты... Прыйшла... І я кахаю.

Не маўчы, прашу. Ці хопіць слоў?
Гэта ўсё было?., нядаўна?., ўчора?..
Ўзнёслая, нібы само святло,
Праплывеш па доўгім калідоры.

І няспешна пад гітары звон
Пройдзеш побач ты, зусім чужая.
Зразумею: мне прысніўся сон.
І нішто нас болей не яднае.

* * *

Прыцемак шэры стаіўся на дне цішыні.
Шолах лісця. Зор зіхоткія стынуць агні.
Бляск ад кастра па-над цёмнай,
здранцвелай вадой.
Пахне аерам зямля і зялёнай травой.
Вёска... Маленствам. Над рэчкаю сцелецца
дым...
Мне усе здаецца цяпер несапраўдным, чужым
Скруха наўкол, запусценне,
пустэча — хоць плач.
І нада мною, між храмаў далёкіх, крумкач,
Змрочны,
кружляе злавесна.
Свой чорны ўбор
Ценем маім на халоднай зямлі распасцёр.

**ЛІСТ ДА МАРЫІ**

Хай пачуццё маё адкрые
Вам ліра — мой суддзя, прарок.
Марыя, мілая Марыя,
Няхай пашле Вам шчасце Бог, .

Ад бедаў і згрызот Вас крые...
Хай смутак сэрца не кране.
Я помніць буду Вас, Марыя.
А Вы — забудзьце пра мяне.

Я знаю, час такі настане
Высакародны, прыйдзе ён —
Шаптаць Вам будзе пра каханне,
І будзе доўгі гэты сон.

І будуць ззяць таксама зоры...
Ды ласкі ўсе не мне — яму.
А я, ўстрывожаны і хворы,
Пайду ў халодную зіму.

Ну, што ж... Хай так. Не стану плакаць.
Быць можа, ўспомніце калі...
Ды і за тое шчыры дзякуй,
Што Вы ў маім жыцці былі.

* * *

Ападаюць жоўтыя лісты
На размытую дажджом дарогу.
Гэткая няўцямная трывога!
Дзень быў і халодны і пусты.

Добра, што ён зараз дагарыць.
Дрэў панурых нежывыя цені...
Маці моўчкі падмятае сені,
Быццам вымятае дзень стары.

* * *

След вашых губ на крышталі,
Віно пракіслае ў бакалах.
Заціхла, апусцела зала.
След вашых губ на крышталі.

На дне халоднага бакала
Адхлання сэрцу не знайшлі.
Адна. І скрушнай пусткай — зала...
След роспачы на крышталі.

## ПАГОНЯ

Сціхае гулкі звон „Пагоні”,
І прытупіліся мячы.
Хрыпяць здарожаныя коні.
Як нам сябе перамагчы?

Ды цепліцца т ч э ў сэрцы вера.
Ты чуеш, дружа, кліч сурмы?
Тады наперад і наперад,
Пакуль народ не знойдзем мы.

Дзень новы над зямлёй усходзіць.
Або знайсці, або сканаць...
Ляцець, ісці... І праз стагоддзі,
І ў вечнасці — шукаць, шукаць.

* * *

Люты. Снегу наваліла.
Гурбы вежамі стаяць.
Чорныя раскінуў крылы
Змрок. І толькі ты і я.

Толькі ты і я. Навокал
Ні душы. Сцюдзёны б'е
Вецер твар. Цалую шчокі,
Вусны я лаўлю твае.

Тае снег незацвярдзелы.
Ноч. І толькі ты і я.
Толькі вуснаў шэпт нясмелы
— Любы!
— Любая мая!

* * *

Ноч. Па вуліцы моўчкі ідзём.
Абадраных будынкаў гмахі.
Дробны дожджык... Здаецца дзіцём.
Ён залазіць пагрэцца пад пахі.

Мяч, што ты падарыла... Машын
.Беспрытульнасць, пустое гайданне.
Горш не будзе. Я сёння адзін.
Вольны — полымя згасла кахання.

Па завулках блукаць давідна
Буду я... Вунь кавярня. Мо зойдзем?
Маю файную пляшку віна.
Сёння можна. Пакутаваць годзе.

Пагаворым. Калі не супроць,
Мы і свечку паставім на столік.
Ты маўчыш, мая „лялька”. Праходзь.
Распранайся. Так моцна ніколі

Не кахаў... Парафінавы дым.
Млосна. Горача, нібы ад печкі.
Быццам прывіды,, побач стаім.
Мы, абняўшыся, побач стаім
У нервовым агеньчыку свечкі.

**ДУХ**

Рукой актора ўзводзіць час на трон
Нас і гуляе намі — знікла Троя.
А ДУХ — непадуладны часу ён.

І кат памрэ, і стане меч іржою...
Мяняюцца правадыры, як рэчы.
І толькі Дух — ён застанецца ВЕЧНЫМ.

* * *

Ад доўгай сцюжы холадна мне так.
І страшна так. Гняце душу самота.
Ты адагрэй мяне сваёй пяшчотай.
Ад доўгай сцюжы холадна мне так.

Я трызніў пра цябе не раз употай.
Са сноў маіх ты, нібы божы знак,
Хутчэй прыйдзі і адагрэй пяшчотай,
І мне не будзе адзінока так.

* * *

Праз паўмежак журбы і адчаю
Я вяртаюся ў горад пусты.
Ціха як навакол. Ападаюць
З пачарнелых прысадаў лісты.

На сівую ад пылу дарогу,
На халодны і выстылы дол...
Прамінула, няма анічога.
Толькі змрок. Толькі пустка наўкол.

## ЯВА ПАДАННЯ

Чуў я гісторыю. Чуў я калісьці такую:
У ночку купальскую, у ціхую ночку святую
Хлопец русалку сустрэў каля рэчкі, ля яру,
І прыгажосці яе ён паддаўся і чарам.
З гэтай пары стаў марнець і згараць, нібы
свечка.
Кожную ночку, самотны, блукаў каля рэчкі.
Кляў ён каханне
і плакаў у змрочную цемру.
Клікаў русалку, ды...
толькі ён клікаў дарэмна,
Бо яна знікла навекі
ў рачной кругаверці,
Смутак пакінуўшы хлопцу
і думкі аб смерці...
Гэтак і я ціхай вулкай,
самотны, блукаю,
Клічу цябе з цішыні.
Толькі марна гукаю.
Хто дапаможа? Маўчы.
Толькі месячык срэбны
З неба самотна глядзіць:
„Прэч ідзі!.. Непатрэбны!..”
Сэрца заходзіцца болем...
Табой раскаханы,
Прочкі бягу я праз ноч,
праз крывавы світанак.
З гэтага горада,
змрочнага спрэс і пустога.
І неадступна за мною — русалкі рогат.

## ЗАМКІ

Кажуць мне, што свет цяпер такі
І для смутку тут няма прычыны...
Толькі раняць сэрца мне замкі
На дзвярах, на куфрах, на машынах.

На замок — арган і спеў сурмы.
А за песняй злодзей не палезе!
Страшна мне, што й душы можам мы
У халоднае замкнуць жалеза.

* * *

Вясновы мляўкі пах. І на асфальце ружы…
Не, сёння не пайду, бязвольны,
за табой.
Застацца не прашу. Бывай…
цяпер я дужы.
І цень свой забяры,
забыла цень ты свой.

* * *

Быў… Есць… Буду…
*У. Караткевіч*

Разбіты мой каўчэг. І я яго пакінуў.
Мне засціць сонца вочы. А пясок
З'ядае ногі. З кожнаю хвілінай
Цяжэй ісці… Але са мною Бог.
Яшчэ пагорак. І затым лагчына.

Адзін застаўся я. Мяне вядзе
Наперад вера — знаю, не загіне
Народ. Праз ганьбу пройдзе ён і здзек.
Адродзіцца, свае загоіць раны…

І заўтра стануць явай міражы.
Пакрыўджаны, няхай і пагарджаны,
Народ — ён быў,
ён — ёсць,
ён — будзе жыць..

* * *

Над пазалотаю касцёла
Схіліла поўня нізка голаў.
На кветкі кволыя і травы
Змрок наплывае, змрок крывавы...
І толькі вішня, што пад брамай,
Яшчэ квітнее белай плямай.

* * *

Я лесвіцу ўзвяду да неба важна.
Там, за сінечай, ззянне думкі Божай.
І паплыву ў край дзіўны, недасяжны,
Дзе мір і радасць і шчаслівы кожны.

Над краем... Над самотным шыхтам хат...
Чужы, незразумелы і нябачны...
І будзе строіць кпіны люд няўдзячны:
— Во, паглядзіце — там паэт, вар'ят...

Даруй ім,Бог. А я ім не суддзя.
Што з іх узяць, сляпых, глухіх і хворых...
Як яблыкі, страсаю з неба зоры.

* * *

Пярсцёнкам, што зляцеў з тваёй рукі,
Раптоўна поўня выплыла з-за хмар,
Твой асвяціўшы на імгненне твар...
У прыцемку прыгожы ён такі!..

Было імгненне гэткім, што не змог
Я слоў знайсці, каб выказаць свой здзіў.
Калі не ў сэрцы, дык ля гожых ног
Травінкай быць — нябёсы я маліў.

* * *

Зляцела з неба зорка і на бруку
Ляжыць цяпер — крышталь расы разбіты.
Сціх птушак спеў. Натомленыя рукі
Для прагнае ўздымаюцца малітвы.

І шэпчуць вусны, поўныя трывогі,
Натхнёна словы цішыні і змроку.
Так моліць маці шчасцейка у Бога
І клыпае па хаце цяжкім крокам.

* * *

Лепш абярнуцца ваўкалакам,
чым жыць чалавекам,
пры няроўным каханні...
*З народнай мудрасці*

Пакахаў дзяўчыну,
А сказаць баюся.
Ноччу ваўкалакам
Дзікім абярнуся.
З чалавечым целам
Ды з аблічча воўчым
Па сумётах белых
Пабягу праз ноч я.
Праз ялінаў голкі,
Праз алешын шаты
Прыбягу на золку
Да знаёмай хаты.
Ты святло запаліш,
У акенца глянеш.
Вочы — зор скрыжалі,
Глянеш — як параніш.
Ад твайго пагляду
Сэрца скамянее,
Пабрыду я садам
З белаю завеяй.
Чым вось у такую
Злую закахацца,
Лепей ваўкалакам
Назаўжды застацца.

* * *

Бывае так, напэўна, толькі ў верасні:
Туманамі засцелюцца палі.
Такая цішыня, ажно не верыцца,
Што нешта ёсць жывое на зямлі.
Ды раптам блісне неба недалёка,
Самотна брамка ў сенях зарыпіць.
І застракоча за ракой сарока,
І кнігаўка заплача звонка — „піць”.

* * *

Мне не трэба было зноў вяртацца сюды,
Да халодных, бы глыбіна лёду, муроў.
Тут і там, як ні глянь,—
спусташэння сляды.
І жалобныя цені сляпых ліхтароў.

Тут я жыў. Ужо трыста ці болей гадоў,
Як забіты пад Оршай варожай аблогай.
Нат забілі нашчадка, нат сына малога...
Ані рэха, калі я ў скляпенне ўвайшоў.

Цемра. Пыл, нібы прах, над маім уваходам.
Тут і там, і паўсюль —
спусташэння сляды.
Мне не трэба было зноў вяртацца сюды,
Да зламаных харугваў
над мёртвым народам.

* * *

На шлюбны строй кідаю я пагляд.
На плечыкі і лёгка і аддана
Лёг вэлюм. І з тваім ён зліўся станам,
Нібыта снег ды кветкі небажат.

Табою я хварэю, закаханы.
Гармонія... Высакародства шмат...
На шлюбны строй кідаю я пагляд,
Дзе ўсё сапраўднае, няма падману.

* * *

А ноччу снег абрушыўся на горад.
Паўсюдна бель,— куды ні кінуць вокам.
Сабакам на двары гуляе холад,
Крадзецца да глухіх дзвярэй і вокан.

Усё зайграла, ажыло наўкола.
Мне радасць поўніць сэрца — пасля ночы
Зноў светлы і такі самотны золак.

Гляджу з вакна — вунь маладзіца крочыць.
Прайшла. Сціх смех яе вясёлы.
І толькі чысціня, што слепіць вочы.

## З О Н Ы

Зноў слова „зона" слых мой рэжа болем.
Заплюшчу вочы — і прыдасца мне:
Калючы дрот вакол баракаў. Поле.
Зіма. Мароз і снег. Навокал снег.

Сабачы брэх. Чырвоныя пагоны —
З вінтоўкаю на вышцы вартавы.
І трупамі запоўненыя рвы,
І смерць — адно тут выйсце з гэтай зоны...

...Навісла хмарай чорнаю над краем
Бяда і тлум... Ізноў — нялётны час...
Зноў з мовы здзек... У зоны заганяюць
Рублёвыя, чарнобыльскія нас.

Мне слова „зона" слых балюча рэжа.
Хачу быць вольным я — абрыд палон.
Хачу свой край пабачыць незалежным —
Без халуёў, без дурняў і без зон.

## ТРЫЯЛЕТЫ

**I**

Адгаманіла, адшумела лета,
І падчарыцай восень на двары.
Вось-вось лісцё на дрэвах дагарыць.
Адгаманіла, адшумела лета.
Сустрэчы не прасі больш у мяне ты,
Надзеі на спатканне не дары.
Я адхварэў табой. Мінула лета.
І падчарыцай восень на двары.

**2**

Мая любоў мяне перамагла:
Ні болю, ні самоты, ні жуды.
Няма мяне... Тры крокі да бяды.
Мая любоў мяне перамагла.
Ты светлай марай для мяне была.
І гэткаю застанься назаўжды...
Мая любоў мяне перамагла:
Ні болю, ні самоты, ні жуды.

**3**

Цябе запомніў назаўжды такой:
Вясёлай, маладой і бестурботнай.
З усмешкаю на тварыку пяшчотным
Махаеш развітальна мне рукой.
Хачу я крыкнуць: „Пачакай, пастой!"
Ды голас мой акамянеў, журботны...
З усмешкаю на тварыку пяшчотным
Цябе запомніў назаўжды такой.

* * *

Вечар. Ціша. Смуга.
Гарадскі парк. Алеі.
Бездань неба. Туга.
Па нязбытнай надзеі

Лаўка. Возера, дзе
Патанулі аблокі.
На халоднай вадзе
Стыне месяца вока.

* * *

Горад. Аблога імжы. Лісцяў ліпкіх
Пахі гаркаватыя ранняга тлену.
Вечар. Кавярня. Самотная скрыпка
Вальс напявае дзівосны Шапэна.

Пляшка сухога — і дзякаваць Богу.
Змрок і празмерны адчай —
будуць потым...
Грае Шапэна скрыпач... І нічога
Зараз не трэба, апроч адзіноты.

**РАЗВІТАЛЬНАЕ**

Я адыходжу. Бо цябе кахаю.
Не затрымаеш, не паклічаш, не...
Мне будзе цяжка без цябе, я знаю,
Але яшчэ цяжэй з табою мне.

Бывай... Мне не забыць твой воблік мілы.
Ты плачаш... Як жа цяжка моцным быць.
Я адыходжу. Дай мне, Божа, сілы
Сябе, нібы парог, пераступіць.

* * *

Зноў восень дажджыстая ноччу бязлюднай,
Нібыта бадзяга, па вуліцы крочыць —
Па вуліцы змрочнай, аглухлай і бруднай.
Ў замкнёныя дзверы і вокны грукоча.

Ды людзі не чуюць ні плачу, ні стогну.
Спяць сном непрабудным
за цёплым ваконцам.
Не бачаць, як вецер зрывае шалёна
Лісцё з дрэў згалелых...
І плач іх бясконцы.

Так марна ўсё, так неспакойна навокал.
Да раніцы дождж за вакном не сціхае.
Гляджу на дарогу, дзе ў шэрані змроку
Двайнік мой, ўсімі забыты, блукае.

* * *

Любіў. Ды ты не зразумела.
Кахаў. Ды ты не прыняла
Маёй душы, а толькі цела
Агню жадання аддала.

Табой адною жыў. Гарэлі
Мы на пякельным тым агні...
Ноч... І закінутая келля.
І ўжо не вернеш цеплыні.

Цябе кахаў — маніць не стану.
І мне ўсё роўна, з кім ты, дзе...
Халодны ложак. Хутка ранак.
А дождж усё ідзе... ідзе...

* * *

У смузе далягляду — вясёлкавы ранак.
Цішыня. Сонца промні сыходзяцца ў ззянні.
Вецер лашчыць павеўна лісточкі. Туманам
Травы мякка засланыя, каб не параніў

Ног бадзяга-вандроўнік, які выпадкова
Заблукаў у куток прыгажосці і чараў.
Сны і згадкі мае: край маленства вясковы,
Дзе гайдаўся вярхом я на золаце хмары.

## ТЫ І МОРА

*Прысвячаю Любе*

Ты мора мне, а я — твой карабель,
Што ў лёсе тваім ціхім заблудзіўся.
Не ведаю — чакае вір ці мель,
Але плыву... На хвілю не спыніўся
З тае пары, як ветразі падняў.
Ў маіх далонях — сінія валошкі.
Я вырвацца хацеў,— цябе кахаў...
І думаў так: „Мне быць смялей бы трошкі.
Марское дно. Нібы каралі, вочы
Твае гараць глыбока,— не дастаць.
Не данырнуць. Так зоркі ззяюць ноччу.
Так светлячкі прыгожа зіхацяць.
Не вырвацца. Прыемны твой палон.
Са мною побач ты. І я шчаслівы.
Цяпер мая — і гэта ўжо не сон.
Бунтуеш, нібы мора ў час прыліву.
А бура ўсё мацнее і мацнее.
Яшчэ хвіліна — сэрца разнясе.
Тваіх грудзей дзве белыя лілеі
На хвалях ночы маладзік пасе.
Якая ночка. Маладзік ліе
Святлыня Знікае час, прастора...
Рукой абняўшы плечыкі твае,
Я моцна сплю. Мне сняцца —
ТЫ і МОРА.

* * *

Праз далягляд мяжы імглістай
Заззяў зноў ранак — светлы, чысты.
На сном ахутыя абшары
Зірнула сонейка з-за хмары.

І ў сэрцы радасць запаліла,
Ты пазіраеш гэтак міла
Мне ў вочы светлымі вачыма,
Што не смяяцца — немагчыма.

* * *

Пусцеюць вулкі… Ліхтароў скрыжалі
Ноч запаліла. Людзі шпаркім крокам
Ідуць дамоў з работы. Хмараў хвалі,
Бы пасмы валасоў, віюцца ў змроку.

Замкнёных крамаў шыбы стынуць стомай.
Бензінам гарадок прапах і потам.
А дождж не йдзе… Не разрывае громам
Нябёсаў… Толькі шолах дрэў маркотны.

## ЛЕТА

Гляджу я праз акно. Прысады
Таполяў зводдаль спяць у цноце,
І густа ластаўкі на дроце
Сядзяць уздоўжкі далягляду.

Шпакі на сонцы грэюць спіны
Г грэбнем-дзюбай мыюць пёры.
Мятлушак залатых уборы,
Нібы луска ці хвост паўліна.

Лістота, кветкі — ўсё дрымотай
Ахутана. Святла спляценне
І фарбаў... Кот гуляе з ценем,
Лянiва ўсеўшыся ля плота.

* * *

Спіць горад мой у ціхім змроку.
Ледзь свецяць лямпы на слупах.
Ні згуку... Дрэваў сон глыбокі.
Нябачных ценяў холад, жах
Я адчуваю за спіною.
Пагляд дарма шукае шлях
Да зорак... Ноч стаіць сцяною.
Пагаслі лямпы на слупах.

## ХУТКА РАСТВО

Хутка Раство — вечар народзін вясёлы.
А покуль пост — запусты дні на зыходзе.
Расчырванелыя дзеці спяшаюць са школы,
Скідваюць ранцы
і коўзаюць спрытна па лёдзе.

Падае снег, нібы з неба Бог белую манку
Сыпле на горад,—
бязмежная бель навакола.
Адпачывае зямля, маразамі скаваная,
І да малітвы званы
клічуць нас у касцёлы.

У хаце чысцютка прыбрана, пабелены сені.
Стол па-святочнаму —
новым засланы абрусам...
Хутка Раство. Вечар святы нараджэння
Божага сына, збавіцеля свету Ісуса.

* * *

Сутонне неба. Гаснуць зоры.
Світанак высіцца ў зняменні.
Сутонне неба. Гаснуць зоры.
І сонца першыя праменні

На росны дол вясёлкай льюцца.
Над возерам туман бялёсы.
На росны дол вясёлкі льюцца,
Бярозам стройным чэшуць косы.

Паўсюль так ціха і ўрачыста.
Спакой і радасць... Без трывогі.
На сэрцы ціха і ўрачыста,
Нібы пад час малітвы Богу.

* * *

Дождж аб шыбы б'е. Самотны вечар.
Сочыцца праз вокны змрок дрымотны
Хтось блукае за сцяной самотны —
Без надзеі, веры на сустрэчу.

Хтось памёр... У змроку шыбы мокнуць
Раскладу ў каміне я цяпельца,
Пакрывалам занавешу вокны —
Да агню пушчу Душу пагрэцца.

* * *

На страйк інтэлігенцыя ідзе —
Настаўнікі,— маленькая зарплата.
— Как нам прожить за эти деньги?— дзесь
Ў натоўпе чую голас хрыплаваты.

— Откажемся учить детей!— жанчын
Я выкрыкі лаўлю. На ўсё гатовыя...
А ў абарону мовы хоць адзін,
Ну хоць бы хто сказаў ці крыкнуў слова!

## ТРЫЯЛЕТ АДЧАЮ

Не трэба слоў. Ты ведаеш сама,
Што я цябе, як і раней, кахаю.
Ды марна ласкі я тваёй чакаю.
Не трэба слоў. Ты ведаеш сама.
Душа світальнай зоркай дагарае,
І плача за акном маім сурма.
Не трэба слоў. Ты ведаеш сама,
Што я цябе, як і раней, кахаю.

## ПРЫСВЯЧЭННІ

1
Той, што, нібы зорка, ў цёмным змроку
Сваёй усмешкай шлях мой асвятляе,
Якую я пяшчотна так кахаю,
Верш-прысвячэнне — пані яснавокай.

Адзінай. Ледзь яе пачуўшы крокі,
Мая душа трымціць і замірае.
Той, што, нібыта зорка, ў цёмным змроку
Мой шлях усмешкай шчырай асвятляе.

2
Квітнее край. Пялёсткамі сваімі
Абсыпалі зноў вішні ціхі сад.
З табой любіў адпачываць пад імі.
Ах, каб вярнуць мне тыя дні назад!

Ды не вярнуць. Гады лятуць, мінаюць.
Вось і яшчэ на год я пастарэў...
Я зноўку тут... А сад цвіце-буяе,
Як і тады, калі цябе сустрэў.

3
Ты помніш парк. Там музыка гучала
І водар кветак радасцю спакуснай
П'яніў нас. Я абняў цябе і вусны
Твае пацалаваў. Ты адказала

Мне пацалункам доўгім і пяшчотным.
А потым мы з табою елі слівы
З прысадаў, дзе нарвалі мы употай...
Ніколі я не быў такім шчаслівым.

4
Цябе запомніў назаўжды такой:
Вясёлай, маладой і бесклапотнай,
З усмешкаю на тварыку пяшчотным
Махаеш развітальна мне рукой.

Хачу я крыкнуць: „Пачакай, пастой!:
Ды голас мой акамянеў, журботны...
З усмешкаю на тварыку пяшчотным
Цябе запомніў назаўжды такой.

* * *
Зіма на шыбах светлых і ўрачыстых
Карункі адмысловыя сплятае,
Як воблік той, якую я кахаю,—
На шыбах тонкіх, светлых, урачыстых

Зіхоткім бляскам ранак зноў заззяе,
І стане дзень такі самотна-чысты,
Як воблік той, што снежань выплятае
На шыбах тонкіх, светлых, урачыстых

## Р А З Л А Д

Ты адвярнулася. Вачмі сцяну свідруеш.
Вось разляціцца на шматкі яна.
Жыві адна. А я знайду другую.
Не буду шкадаваць. Жыві адна.

Жыві як знаеш. Не адна на свеце.
Пайду я ад цябе. Пайду... Не спіш.
Дрыжыць і плача за фіранкай вецер.
А скрозь фіранку — маладзік, бы крыж.

## РАССТАННЕ

Не плакала і не кляла. Маўчала.
Застацца не прасіла ты мяне.
Адно вачэй тваіх халодных джала
Пранізвала зласліва грудзі мне.

Маўклівыя плылі кудысьці людзі
Паўз нас з табою, вуліцу, зіму.
І падаў снег... І думаў я — не будзе
Ніколі, думаў я, канца яму.

## СВЕТЛЯЧКІ

Здавалася, што свет аглух наўкол.
Так ціха стала. Дробны дождж пайшоў.
Ды лес ажыў ад сотні светлячкоў,
І ўспыхнуў полымем зялёны мох.

Здалося мне ў дзівосны гэты міг,
Што душы продкаў ажылі на міг.

* * *

Калядными прыцемкамі, калі
Віхурамі снег замятае палеткі,
Нябожчыкаў душы лятуць ад зямлі —
Мінулых стагоддзяў забытыя сведкі.

Нябачныя, ходзяць па хатах яны,
Ды людзі не чуюць іх енкаў, праклёнаў.
І з вечара б'юць аж да рання ў званы,
Ад родных сваіх не пачуўшы імёнаў.

## СОН ПРА ЦЯБЕ

Сон пра цябе — сон мімалётны гэткі.
Лагодны сон, як коцік на падворку,
Што расцягнуўся на траве. Як зорка,
ён светлы. І прыгожы, нібы кветка.

П'янкі, нібы віно ці вішні сок,
Сон пра цябе. З пяшчотай, і сумотай,
І з гаркаватым пахам весніх траў,
і цнотай...
П'ю асцярожна за глытком глыток.

## ПОЗНЯЯ СУСТРЭЧА

Чаму цябе раней я не сустрэў,
Калі вясна звінела салаўямі?
Як нікне сонца. Не відаць з-за дрэў.
І стогнуць вербы сумныя над намі.

Захутваеш у шалік плечы ты.
Плыве туман над возерам так нізка...
Як позна мы сустрэліся! Лісты
Сярдзіта рве з асенніх дрэў вятрыска.

## НА ДЗЯДЫ

Узышоў на пагорак: кветкі, ціш, траваросы.
Гэта могілкі. Зверху на дрэвах вароны
Так нахабна расселіся, зыркаюць скоса.
Палыну пах прагорклы, лістоты і скону.

Хмары нізка плывуць, нібы змрочныя здані,
Над магільнымі плітамі. Купкамі людзі
Прыбіраюць магілы. Спакой і адхланне
З прадчуваннем сустрэчы... якое не будзе.

* * *

Яшчэ іскрыцца снег. Ды за ваконным
Шклом пачарнелі пожні, як чупрыны...
Зласлівыя багі на адпачынак
Пайшлі, аддаўшы месца богу плёну.

Яшчэ зямля скаваная марозам.
Ды, бачыў я,— у сонечным зіхценні
Заплакаў Жыцень. Праліліся слёзы
На поле, што за вёскаю, насеннем.

* * *

я зразумеў: мяне ты не кахала.
Рассталіся з табою назаўжды...
Над горадам плыве дрыготкі дым -
Яшчэ цямней ад' хмараў чорных стала.

Іду адзін. З табой цяпер на ВЫ.
Па твары б'юць паніклых дрэў галінкі.
І шыбіны ад кропель дажджавых
Блішчаць, нібыта на шчацэ слязінкі.

* * *

Вятрыска галосіць і плача.
І цемра ў вакно пазірае.
Гляджу я на вуліцу, бачу:
На дудачцы нехта іграе.

Грай, хлопча! Хай сэрца бунтуе.
Душа ляціць птушкай да Бога...
У змрок на дарогу бягу я,
Ды толькі навокал нікога.

Нікога... Халодная восень.
Адзін я — на ўсё наваколле...
І толькі вятрыска галосіць
Самотную песню у голлі.

**АБРАЗ**

Наўсцяж я расчыню акно,
І золатам чырвона-белым
Святло ўпадзе на палатно:
Бязмоўны твар яе і цела.

І ажыве перада мной
Агонь грудзей, вачэй шаленства.
І я жахнуся падабенству
Яе — з распуснаю табой.

* * *

Над змрокам вуліц гарадскіх
Бязмежнасць веснавых нябёсаў.
Там зоркі — знакі душ людскіх,
Іх не злічыць — мільярды лёсаў.

Вунь зорка новая—дзіця
З усмешкай добрай і цнатлівай...
Тчэ нітку тонкую жыцця
З начной цішы багіня ЖЫВА.

* * *

Світае. І з палону дзіўных сноў
Ты на мяне глядзіш гэтак шчаслівa.
На вейках ночка спіць... Люблю без слоў:
Каб сон не разбудзіць твой палахлівы.

І гладжу рукі я твае.
Ах, як твой мілы тварык ззяе цнотай...
Вось сонца з ночы ўзыдзе і пралье
На шыбіны слязінкі пазалоты.

**НОЧ РАССТАННЯ**

У вокнах пустка. Цішыня ў пакоі.
Не цешыць зрок мой месяц у вакне.
Каханая, ужо ўсё роўна мне,
Хто бавіць час у гэты міг з табою.

Шчэ не пагасла свечка на падлозе
І па шпалерах нечы цень плыве.
Заплюшчу вочы—-стан твой ажыве
У водбліскаx дзівосных на парозе...

Вунь пляшка недапітая, наўзбоч
Твой падарунак — кветкі, дарагая.
Пагасла раптам свечка. Пройдзе ноч
Яшчэ адна, нікчэмная, пустая.

* * *

Гадзіна ночы. Сон не цешыць вочы.
Са століка дастану цыгарэты
І запалю... У крэсла сяду. Ветах
Над горадам пустым застыў сіроча.

Прыпомню хату, два ля ганка клёны
І рукі любай. Ціша. Парк. Алея...
Ах, сэрца як калоціцца шалёна!
Вясна сплыла... І восень свечкай тлее.

**АДХІЛЕНАЕ КАХАННЕ**

Я помню той вечар. Нібыта ўва сне.
Рашыўся і папрасіў вінавата
Рукі тваёй, панна. І зараз жа мне —
Адмова твая. За каханне — расплата.

Туман у кустах плыў халодны як лёд,
Застыглі на небе да раніцы зоры.
У цішы начной знерухомеў чарот,
Збянтэжана дрэвы шукалі прасторы.

Па лузе маўклівым я крочыў у ноч,
У горад халодны вар'яцтва і тлуму.
Шукаў я святла... Толькі цемра наўзбоч...
Ноч зойдзецца ліўнем адхлання і суму.

## У НАВАЛЬНІЧНУЮ НОЧ

Я горла зацісну рукамі, бы пасткай.
Ні стогну, ні крыку табе не пачуць.
Душа вар'яцее і рвецца на часткі,
Пачварныя цені па сценах паўзуць.

Кустоўнік застыў у пакутлівай стоме.
Я прагну адхлання... Ды мне не заснуць,
У гэтым ампірным і д'ябальскім доме
Грымяць перуны і вятры ўсё гудуць.

Але праз туман прабіваецца ранак,
Разблытвае вецце ён чорнае хмар...
Без вашай мілосці слабей я не стану,
Ды шкода, князёўна, загубленых мар.

* * *

Сны пра цябе мне сніцца перасталі.
Душа мая табою адбалела.
І цеплыні, святла менш стала ў зале.
Гадзіннік нават б'е не гэтак смела.

Бы нехта абакраў... Маўчыць зацята
Цвыркун,— больш не спявае за сцяною.
І стала змрочнай і пустою хата...
З хвіліны той, калі ты не са мною.

## УСПАМІН

Я помню сад. І дрэваў шапаценне —
Той дзень застаўся згадкаю далёкай.
Нібы анёлы ў залатым адзенні,
Плылі па небе белыя аблокі.

Заціхнуў вецер. Стала так бязмоўна —
Мы разам азірнуліся ў зняменні:
Вужакамі вірлівымі няўлоўна
Цягнуліся за намі нашы цені.

Ды з кожным крокам меншалі, марнелі
Яны, пакуль зусім не зніклі ў змроку...
На небе зоркі ярка так мігцелі...
Цяпер далёка ты... О, як далёка...

## ЯК СУМНА..

Як сумна, што вятрыска за вакном
Лісцё зрывае з пачарнелых дрэваў.
Што ты пайшла. І я адзін даўно.
Мінула лета. Птушак змоўклі спевы.

І што над горадам туман густы.
Што ты мяне ўжо болей не кахаеш.
Як сумна, што, нібы прырода, ты
У маім сэрцы ціха паміраеш.

## СОН

Самотай сэрца апячэ,
Адкажаш ціха: „Да сустрэчы”.
І развітальны сум вачэй
Мне птушкай упадзе на плечы.

І пахілюся долу я
Пад гэтым цяжарам жаданым...
Над безданню падхопіць ранак
Рука ласкавая твая.

* * *

Снежань без снегу. Прастуджаны сад.
Цiснуцца грушы да зябкага плота.
Твой фотаздымак дастану — пагляд,
Хоць і калючы, ды поўны пяшчоты.

Вецер слабее, а рук не сагрэць.
Бездань нябёс. І навокал ні гуку.
Мне ж бы табою даўно адхварэць.
Помню твае я пяшчотныя рукі.

І адчувальныя пальцы. Не мне
Іх цалаваць, песціць іх у знямозе.
Снежань без снегу. Так рана цямнее...
Стыне душа на пякучым марозе.

* * *

Помніш, месяц у воблачных далях
Цьміўся шкельцам ружовым. Світанне.
Россып кветак на лузе, што сталі
Сведкай нашага шчасця й кахання.

Лета ў снах патанула... Заслала
Зноўку восень лістотай палеткі.
Травы зжоўклі густыя. Завяла
І каханне, нібы тыя кветкі.

* * *

Кажу сабе: ты дрэннае забудзь.
На свет вачыма Радасці зірні.
Гады твае, бы хмаркі, праплывуць,
Растануць свечкаю таемнай дні.

І ахінецца цемраю чало...
Кахай, твары, пакуль на свеце ёсць
Вачэй тваіх агністых прыгажосць
І сонца незгасальнае святло.

* * *

*Алесю Каско*

З вершамі сшытак юначы гартаю.
Кветачкі. Птушачкі. Я вас кахаю.
Светлыя мары. Юначы наіў.
Сад мой і ладанкі — белы наліў.
Вобраз дзяўчынкі,прыгожай і мілай.
Зыркія клятвы кахаць да магілы.
З вершамі сшытак... Парваў і спаліў!
Сад мой. І ладанкі — белы наліў.

* * *

Ноч. Хіжы змрок паўзе праз вокнаў краты
Паволі, мякка, скрадліва, бы кот.
Гляджу ў замкнуты свет стракаты.
Аглушаны начною цішай. Плот
На вуліцы чарнее. А за плотам
Самотны бэз. Зіма і снегу бель...
І быццам снег — на сэрцы адзінота,
І быццам снег — халодная пасцель.

**ТЭАТР**

Паклоны, рэверансы, парыкі.
Натацыі, бясконцасць маналогаў.
Не ўзрушвае. Навокал сум такі,
Што да званка падымешся. Сухога
Глытнеш віна, і стане свет другім,
Святлейшым. Без падману, раўнадушша.
Апошні акт... Яшчэ не змыты грым
З бяздумных твараў і халодных душаў.

* * *

„Даўно агні патухлі ў вокнах",—
Пад дождж пішу я трыялет.
Пусцее пачак цыгарэт.
Даўно агні патухлі ў вокнах.

Прыйдзі! Сцякае мокры змрок на
Паперу, столік, твой партрэт.
„Даўно агні патухлі ў вокнах",—
Пад дождж пішу я трыялет.

* * *

Марыя — як мара? Мара!
Марыя — і марнасць і мроя.
Я мрою парою старою:
Марыя — як мара? Мара!

Каханка, вакханка, сястра,
І з жалем я жарцікі строю:
Марыя — як мара? Мара!
Марыя — і марнасць і мроя.

* * *

Ноч. Нікога. Лаўка. Парк.
Цішыня. Вярба крывая.
Нібы з мячыкам, рака
З поўняй маладой гуляе.

Бэз. Сцяжынка. Майскі жук.
Бар. Ліхтар ля павароту.
Словы. Паяднанне рук.
Пацалункі. Парк пяшчоты.

* * *

Як без цябе дагэтуль жыў — не знаю.
Цябе мне, пэўна, падарыў сам Бог,
У вусны ўклаў Дзівоснае „кахаю”.
Як без цябе дагэтуль жыў, не знаю.
Кахаю… Зноў і зноў я паўтараю.
Як нарадзіцца без цябе я мог,
Як без цябе я жыў дасюль, не знаю,
Цябе мне, пэўна, падарыў сам Бог.

* * *

У доме, што змалку быў велічным храмам,
Я зноўку. Прысніласся? Можа, не сон…
Мой бацька жывы шчэ, жывая шчэ мама.
На покуце пахне пачэсаны лён
Кашуляю зрэбнай, а можа, а можа —
Дзяцінствам далёкім… Там бавіцца кот
З клубочкам, які закаціўся пад ложак…
За ніткаю нітку прадзе калаўрот.
Ачнуўся, прыслухаўся: шумна світае.
Трамваі грукочуць, бягуць за вакном.
Зіма. Завіруха скрыпіць, завывае,
Прадзецца ўспамін мой кужэльным сняжком.

* * *

Бурлівае, наіўнае каханне...
Цяпер мая душа знайшла адхланне.
Спакойны дух. Упэўненасць. Парадак.
Дом цёплы, дзе гасцям заўсёды рады,
Дзе смех дачкі ніколі не змаўкае,
І я шапчу другой цяпер: „Кахаю”.

Расой начной, нікім шчэ не кранутай,
Каханне свеціць, чыстае... як смутак.

**АБРЫЎ**

Вельмі позна. Ты далёка.
Сыплюцца маланкі ў ноч.
Цемра. Гром грукоча ў змроку,
Дождж і вецер. І наўзбоч
Коўзкі брук струменіць, грае.
Крок ступі — абрыў круты.
Бездань. Не яна лякае,
А вяртанне ў дом пусты.

**КВАНТЭМЫ**

* * *

нанізаная ноч
на прамень маладзіковы
п'е сырадой вясны.

* * *

я прыйду ва ўчора
каб сказаць: кахаю
рэха не пачуе

* * *

світальныя вусны
цалуюць ноч
тваіх вачэй

* * *

быў маладзейшы за дрэва
калі не жыў

* * *

душа над каменем
цела
схілілася

* * *

Сабак я не люблю: пакора
І невыносная журба...
Яны — як чалавек, каторы
З душой агіднага раба.

* * *

Дарэмна крычаць: „Абудзіся, народ!”
І зыркія словы кідаць, бы праменні.
Хіба іх убачаць бязмоўныя цені?
Дарэмна крычаць: „Абудзіся, народ!”

Магчыма, стагоддзі мінуць, а не год,
К'алі ён падымецца зноўку з каленяў.
Дарэмна крычаць: „Абудзіся, народ!”
І зыркія словы кідаць, бы праменні.

**ТРЫ РЫЦАРЫ**

Я адчыніў цяжкую браму
І акунуўся ў думы-мары...
І ажылі ў міг гэты самы
Муры, харугвы і штандары.

Іржалі коні, і падковы
Зямлю шалёна малацілі.
Тры рыцары прайшлі ўздоўж рова
І ля мяне хаду спынілі.

Між чорных хмараў сонна зоркі
Мігцелі ў залатым прасеецца
Жалейка плакала ці вецер?
І першы з іх пачаў гаворку:

— Я Вітаўт. Не пазнаў, я знаю...
Аб'ехалі мы край наўкола.
Зямля з народам, ды... пустая,—
Ён усміхнуўся невясёла.

Сказаўшы гэта, змоўк. Т слова
Другі ўзяў:
— Са стагоддзяў сёння
Да вас прыйшоў невыпадкова
Я, князь Давыд, Давыд з Гародн

Нягоды. Зло. Хлусня. Разлады.
І дзеці — межамі з калыскі
Падзелены. Край нам не рады.
Мост будучыні гэткі хісткі.

Сказаў і знікнуў у прасвецці.
Як не было. Тады з размовай
Наперад выйшаў рыцар трэці,
Мужыцкі рыцар, рыцар слова:

— Ваш Бурачок. Так у народзе
Мяне назвалі. Сэрца стыне
Ад думкі страшнай — мова гіне,
І гінеш ты, о мой народзе...

Прамовіў сумна. І цямрэча
Ягоны думны твар схавала...
Я ў храм пайшоў і там тры свечкі
Зацепліў — і так горка стала.
Я на халодны дол укленчыў...
На небе зорка дагарала.

## З М Е С Т

Трыялет адчаю
Прысвячэнні
„Зіма на шыбах светлых і ўрачыстых...”
Разлад
Расстанне
Светлячкі
„Калляднымі прыцемкамі, калі...”
Сон пра цябе
Позняя сустрэча
На Дзяды
„Яшчэ іскрыцца снег. Ды за ваконным...”
„Я зразумеў: мяне ты не кахала...”
„Вятрыска галосіць і плача...”
Абраз
„Над змрокам вуліц гарадскіх...”
„Світае. І з палону дзіўных сноў...”
Ноч расстання
„Гадзіна ночы. Сон не цешыць вочы...”
Адхіленае каханне
У навальнічную ноч
„Сны пра цябе мне сніцца перасталі...”
Успамін
Як сумна...
Сон
„Снежань без снегу. Прастуджаны сад...”
„Помніш, месяц у воблачных далях...”
„Кажу сабе: ты дрэннае забудзь...”
„З вершамі сшытак юначы гартаю...”
„Ноч. Хіжы змрок паўзе праз вокнаў краты...”
Тэатр
„Даўно агні патухлі ў вокнах...”
„Марыя — як мара? Мара!..”
„Ноч. Нікога. Лаўка. Парк...”
„Як без цябе дагэтуль жыў — не знаю...”
„У доме, што змалку быў велічным храмам...”
„Бурлівае, наіўнае каханне...”
Абрыў
Квантэмы
„Сабак я не люблю: пакора...”
„Дарэмна крычаць: „Абудзіся, народ!..”
Тры рыцары

**Дэбіш В.**

Лісты да Марыі: Вершы/Прадм. Н. Мацяш. — Мн. Маст. літ. 1996. – 118 с., - (Першая кніга паэта)"

ISBN 985-02-0273-4.
Васіль Дэбіш — брат паэта Анатоля Дэбіша, які ўжо з'яўляецца аўтарам зборніка вершаў „Стодзівы”, выдадзенага ў серыі „Першая кніга паэта”. І вось у гэтай серыі дэбютуе Васіль. Яго лірычны герой пазнае сябе ў бязраднасці і няпэўнасці дня сённяшняга, задумваецца над тым чым дапамагчы людзям, краю роднаму ў наш складаны час як выжыць самому. Ён задаецца пытаннем „Каму маліцца мне?», Вобраз ягонага трыадзінага Бога яскрава праступае ў іпастасях Радзімы, Дабраты і Кахання.